# ВОЙДИ В ИСТОРИЮ СВОЕГО ГОРОДА

В жизни каждого человека случаются как радостные, так и горестные события. Ведь именно из них и складывается хроника нашей жизни, которая может быть интересна не только нам, но и нашим потомкам. Поэтому давайте вместе создавать историю нашего Слонима.

Если вы хотите, чтобы издание «Отдушина» написало о вашей свадьбе, рождении ребенка, известило о смерти ближнего и напечатало некролог под рубрикой "Войди в историю своего города", пишите нам -по адресу:
г. Слоним, ул. Красноармейская, 41, Тел.: 612-26-43, 2-90-00 (Тел/факс) .

# «Беларусам трэба трымацца разам»

**Больш за пяць гадоў жыхарка аграгарадка Дзярэчын Наталля Міхно жыла без святла і паліва да печы. Дзяржава адняла ў яе пецярых дзяцей і абавязала плаціць за іх утрыманне. Жанчына выжывала на 40-50 капеек у дзень. Працавала 31 дзень у месяц і атрымлівала капейкі, а бывала, што ў яе разліковым лісце ў графе «Да выдачы» значыліся нулі. Аб гэтай жудаснай гісторыі неаднаразова пісала «Газета Слонімская», распавядаў тэлеканал «Белсат». Пра праблемы сялянкі даведаўся беларус са Швейцарыі Алесь Сапега, які родам з Бабруйска. Ён не застаўся абыякавым да лёсу жанчыны. За пару дзён ён вырашыў праблему са святлом і цяплом для сялянкі.**



На вачах слёзы, а ў далоні цеплыня душы. Сустрэча Наталлі Міхно з Алесем Сапегам

## «ДЗЕ ВЫ РАНЕЙ БЫЛІ? У МЯНЕ НЕ БЫЛО АБАРОНЫ»

А 4 лютага Алесь асабіста прыехаў да Наталлі ў вёску, каб паглядзець, у якіх умовах яна жыве, і высветліць, якая яшчэ ёй неабходна дапамога. Дарэчы, прыезд Алеся супаў з днём смерці маці. Збег абставінаў або Нябёсы так распарадзіліся, хай кожны для сябе вырашае сам.

Наталля чакала Алеся з вялікім нецярпеннем, каб асабіста пры сустрэчы сказаць яму велізарны чалавечы дзякуй.

І вось да дому пад'ехала іншамарка, з якой выйшаў малады чалавек з букетам кветак і паштоўкай у руках.

— Я Алесь Сапега, які дапамог Вам вырашыць праблему са святлом і цяплом, — сказаў выратавальнік, пераступіўшы парог хаты Наталлі. І падарыў гаспадыні кветкі і паштоўку, павіншаваўшы з мінулым днём нараджэння.

У Наталлі ў гэты момант пакаціліся з вачэй слёзы, што кранула да глыбіні душы. Цалкам незнаёмы чалавек праявіў велікадушнасць да простай сялянкі, якую ўсе гэтыя гады ўлада прасавала, чарніла і прыніжала, замест таго, каб ёй дапамагчы.

— Наталля, пра Вас ведаюць людзі ў Швейцарыі і ва ўсім свеце. І для нас дзікунства, каб чалавек у XXI стагоддзі так жыў. Пакажыце мне Ваш дом, таму што некаторыя нават не вераць, што Вы можаце жыць без святла. Запаліце святло, — сказаў Алесь.

> «
>
> — Я столькі гадоў пражыла без святла і дроў, не спадзявалася ўжо ні на каго. Паглядзіце на мяне, няўжо я падобная на жанчыну, якая п'е? Мне вельмі за гэта крыўдна. Дзе Вы раней былі? У мяне не было абароны. Вялікі Вам дзякуй за ўсё. Да каго я толькі з кіраўніцтва ні звярталася, але мне ўсё казалі, што няма грошай на рашэнне маіх праблем. Прапаноўвалі купіць дзве свечкі, каб было ў хаце святло, — сказала Міхно.

— Я працую, адлічваю падаткі кожны месяц і выжываю на капейкі. Нядаўна я атрымала адпускныя, паехала ў Слонім і ўпершыню за шмат гадоў, як жанчына, купіла сабе духі і лак для пазногцяў, — прызналася Наталля.

Алесь папрасіў Наталлю паказаць, у якіх умовах яна жыве, агледзеў яе дом, зайшоў у кожны пакой, праверыў асабіста ўсе вокны, прасіў паказаць накладную на прывезеныя дровы і квітанцыю за электраэнергію. Пацікавіўся ён і тым, колькі яна зарабляе, колькі дзён у месяц працуе, азнаёміўся з кожным радком у яе разліковым лісце. Зазірнуў у калодзеж, з якога Наталля бярэ ваду, папрасіў паказаць, дзе ляжаць дровы, якія ёй прывезлі. Паабяцаў яшчэ заплаціць за цэлы прычэп дроў і вырашыць праблему з вокнамі.

— Калі можна, хай прывязуць не колатыя дровы, а калодкі. Я сама іх пакалю, так танней Вам абыдзецца, — настойліва прасіла жанчына.

## А ЗАТЫМ СІЛКОМ АДВЕЗЛІ КАДЗІРАВАЦЬ, ХОЦЬ ЯНА НЕ ПІЛА

За Наталлю ўступілася жанчына, у чыім падпарадкаванні яна працуе.

— Наталля — сумленная асоба. Яна не п'е, і гэта праўда. Штодня ходзіць на працу. У нядзелю ў яе павінен быць выходны, але, калі трэба, яе папросяць, яна выходзіць і працуе. Ніхто яе ніколі п'янай не бачыў.

У той дзень, калі старшыня сельсавета Святлана Грынцэвіч ёй сказала, што забярэ ў яе дом і прадасць, Наталля да мяне прыбегла засмучаная. Я ніколі яе такой не бачыла. Хоць старшыня магла ёй дапамагчы, хаця б даслаць рабочых, каб спілаваць сухія дрэвы на ўчастку, — сказала аднавяскоўка.

Наталля ў той дзень распавяла Алесю, як пасля смерці маці ў яе адразу ж забралі дзяцей, як у радзільным доме адабралі нованароджанага сына, якога ёй нават не дазволілі карміць грудзьмі, і аддалі ў чужую сям'ю. А затым сілком адвезлі кадзіраваць, хоць яна не піла, ніхто ніколі ніякіх актаў з міліцыі на яе не складаў. І яна пагадзілася з іх рашэннем, бо ведала, што не зможа супрацьстаяць сістэме і не было каму за яе заступіцца. Расказала, як старшыня сельсавета Святлана Грынцэвіч пагражала прадаць яе дом і падсоўвала падпісаць чысты ліст паперы.

Азнаёміўшыся з бытам Наталлі, выслухаўшы яе споведзь, Алесь спытаў:

— Як Вы жылі?

— Бачыце, я выжыла. За мяне не было каму заступіцца, таму яны рабілі са мной што хацелі.

## САМАЕ СКЛАДАНАЕ, КАЛІ ЛЮДЗІ ПАЧНУЦЬ АД УЛАДЫ ПАТРАБАВАЦЬ ТОЕ, НА ШТО ЯНЫ МАЮЦЬ ПРАВА

На развітанне я пацікавілася ў Алеся, якое ў яго склалася ўражанне пасля размовы з Наталляй.

— Калі я зайшоў у дом, то нічога не ўбачыў тут дзіўнага, чагосьці такога, чаго я не бачыў у іншых сялянскіх хатах. Хіба эканоміць дровы, бо ў доме халаднавата.

Мне спадабалася, што чалавек ахайна апрануты, не адчуваецца паху алкаголю. Калі мне кажуць, што тут дзверы пакрывіліся або шкла ў аконнай раме няма, так мы можам палічыць, колькі цяпер такіх дамоў знаходзіцца на гэтай вуліцы.

Таму, калі людзі будуць трымацца разам, а ў кожнага ёсць свае праблемы, тады яны будуць перад сістэмай не адны, і яны змогуць сябе абараніць. Галоўнае, каб Наталля не апускала рукі. Відаць, што жанчына пакрыўджаная на сістэму, і гэтая сістэма ёй дапамагаць не збіраецца.

**— Часта Вам даводзіцца дапамагаць землякам і з якімі праблемамі яны да Вас звяртаюцца?**

— Пасля сітуацыі з Наталляй Міхно да мяне ўжо звярнуліся тры сям'і, нават адна з гэтай вёскі. Нават і з вялікіх гарадоў звяртаюцца шматдзетныя сем'і, якім пагражаюць тым, што ў іх адбяруць дзяцей з-за неаплачанай камуналкі. Ім таксама даводзіцца дапамагаць. Трэба разбірацца ў кожнай сітуацыі індывідуальна. І я не лічу правільным, што я дапамагу сем'ям грашыма. Ёсць шмат рычагоў, як можна дапамагчы. Даваць грошы — гэта самае простае. Самае складанае, калі людзі пачнуць ад улады патрабаваць тое, на што яны маюць права.

**Ганна ВАЛАДАШЧУК**

ФОТА АЎТАРА

БОЛЬШ ФОТА І ВІДЭА ГЛЯДЗІЦЕ НА GS.BY

ANNA@GS.BY

**Тэлефоны рэдакцыі:**
**т/факс:** 8 (01562) 29-999,
**Тэл.** 6-36-58, 6-36-68, 6-36-54, 6-36-44.
**Velcom:** 8-029-133-04-21



# Пазнай сябе на фота

**Паважаныя чытачы! Пазнавайце на старых фотаздымках сябе, сваіх знаёмых і блізкіх і тэлефануйце нам: 8 (01562) 29-000, 8 (029) 133-04-21 у працоўныя дні з 9:30 да 17:30.**


Слонім, 1998 год, снежань, вул. Першамайская, пікет мясцовай суполкі БНФ



На фотаздымку 1982 года з калгаса «1 Мая», надрукаваным у мінулым нумары газеты («Аддушына» №5 ад 31.01.18), жыхар вёскі Мяльканавічы Рыгор Рагозік пазнаў сваіх знаёмых з вёскі Сянькоўшчына.

— На фотаздымку ў сваёй вёсцы сфатаграфаваны муж і жонка Сцяпан і Вольга Ягаўдзікі. Яны і сёння жывуць у Сянькоўшчыне, — расказаў Рыгор Сямёнавіч.



Наша чытачка са Слоніма Яўгенія Грышчанка адгукнулася на фотаздымак работнікаў спецсаўгаса «Рышчыцы», надрукаваны ў «Аддушыне» №4 ад 24 студзеня.

— Першым у калоне на здымку ідзе наш брыгадзір па азеляненні Альфонс Альфонсавіч Стасевіч, ён ужо памёр, другая за ім — галоўны аграном Любоў Мікалаеўна Пракапчук, потым слесар Іван Іванавіч Жывулька, за ім іду я, майстар ці брыгадзір — не памятаю ўжо, кім дакладна працавала ў той час — Яўгенія Паўлаўна Грышчанка, за мной у белым плашчы — не магу сказаць дакладна хто, за белым плашчом — эканаміст Надзея Пятроўна Куляшова, якая жыве цяпер у Мінску ў дачкі, самая крайняя справа — аграном Вера Рыгораўна Акавіцкая, — расказала Яўгенія Паўлаўна.

Рыгор Сямёнавіч Рагозік і Яўгенія Паўлаўна Грышчанка атрымаюць запрашэнні на дзве персоны кожны на спектакль Слонімскага драмтэатра для дарослых «Стыхійнае бедства», які пачнецца ў нядзелю, 11 лютага, у 17.00.

**Мікола КАНАНОВІЧ**
ФОТА З АРХІВА «ГС»

# Слонимчане — жертвы политических репрессий в 30-е годы

ПРОДОЛЖЕНИЕ. НАЧАЛО В №2-5

**Адамчик Евгений Тофильевич**
1937 г.р., м.р.: Барановичская обл., Слонимский р-н, Заводный Лес, гражданин Польши, поляк, сын осадника
Обвинение: осадник

**Адамчик Леокадия Тофильевна**
1940 (1939) г.р., м.р.: Барановичская обл., Слонимский р-н, Заводный Лес, гражданка Польши, полька, дочь осадника
Обвинение: осадник

**Адамчик Юзеф Тофильевич**
1935 г.р., м.р.: Барановичская обл., Слонимский р-н, Заводный Лес, гражданин Польши, поляк, сын осадника
Обвинение: осадник

**Адамчик Ядвига Тофильевна**
1931 г.р., м.р.: Барановичская обл., Слонимский р-н, Заводный Лес, гражданка Польши, полька, дочь осадника
Обвинение: осадник

**Адамчик Ольга Ильинична**
1907 г.р., м.р.: Барановичская обл., Слонимский р-н, Петралевичи (?), гражданка Польши, белоруска, жена осадника, образование: низшее
на с/п — торфоразработки, лесозаготовки
прож.: Белорусская ССР, Барановичская обл., Слонимский р-н, Заводный Лес
Обвинение: осадник

Все вышеперечисленные: приговор 10.02.1940 — выселены. 24.02.1940 прибыли на спецпоселение: Вологодская обл., Сокольский р-н, Сокол. Осв. 28.08.1941 по Указу ПВС СССР «Об амнистии польских граждан»

Источник: База данных «Польские спецпереселенцы в Вологодской обл.»

**Жанна ИВАНОВА**

ЧИСТКА ПОДУШЕК
из пуха и пера
СЛОНИМ, УЛ. ТОПОЛЁВАЯ, 22
рынок «Наш край», павильон 22
возможна ДОСТАВКА
ЧИСТКА КОВРОВ
мягкой мебели и салона авто
8-029-108-03-77
8-033-613-15-95

КОМБИКОРМ
ОТРУБИ
ДОСТАВКА
6-96-09
8-029-396-19-99
ИП Рудак О.А. УНП 500005244

РЕМОНТ ХОЛОДИЛЬНИКОВ
МТС 8029-280-11-03,
Вел. 8029-624-11-03
СТИРАЛЬНЫХ МАШИН-АВТОМАТОВ
Вел. 8-044-712-91-66
ПЫЛЕСОСОВ, УТЮГОВ, ФЕНОВ, КУХ. КОМБАЙНОВ И Т.Д.
Вел. 8-029-394-70-56, 6-17-80
ИП Гаврилов В.Н., УНП 590083548

ПРОДАМ ПИЛОМАТЕРИАЛ:
БАЛКИ
СТРОПИЛА
ДОСКА
обр. и необр.
ШТАКЕТНИК
доставка
8-029-821-84-73
ИП Шелест С.А. УНП 291087314

ВЫПОЛНЮ
СТРОИТЕЛЬНО-ОТДЕЛОЧНЫЕ РАБОТЫ
- Демонтаж любой сложности
- Стяжка, штукатурка, гипсокартон, шпатлевка, откосы, потолки, обои, ламинат, жидкие обои, керамическая плитка и т.д.
- Сантехнические работы: монтаж водопровода, канализации и вентиляции, установка полотенцесушителей и сантехприборов
Качество. Гибкие цены
8-029-785-31-03
ИП Лазарчик В.А., УНП 591737629

рекламное агентство КОРЕКС
ОРИГИНАЛЬНЫЙ ПОДАРОК С ВАШИМ ФОТО!
кружки брелоки
майки подушки
тарелки фотокристаллы
календари именная ложка
ул.Синичкина, 6 тел.6 444 6; +375 29 946 40 29
Рекламное агентство "Корекс" УНП 590093088

Более 200 расцветок, от 7 р. за м²
ЛИНОЛЕУМ
на готовые куски скидка 30 %
ковролин, панели пвх и мдф, сайдинг, софит, плита osb
ВЫБОР! ЦЕНЫ! ДОСТАВКА!
ЛАМИНАТ
Более 150 расцветок, от 9 р. за м²
ул. Красноармейская, 73Б, 2-й эт.
Рассрочка! (033) 699 40 80
(029) 656 34 97,
ЧТУП "ДимОксСтрой" УНП 290501814

ЗАБОРЫ ЖЕЛЕЗОБЕТОННЫЕ,
АЖУРНЫЕ РАЗНЫХ ФОРМ.
БОЛЬШОЙ ВЫБОР. НИЗКИЕ ЦЕНЫ.
ДОСТАВКА. УСТАНОВКА.
Заборы металлические;
ворота откатные распашные,
гаражные; качели; скамейки.
БЛОКИ АЖУРНЫЕ – СТОЛБОВЫЕ
ПЛИТКА ТРОТУАРНАЯ;
РВАНЫЙ КАМЕНЬ – ДЕМЛЕР
УКЛАДКА, БЛАГОУСТРОЙСТВО МОГИЛ
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЕТ.
ТЕЛ. 721-58-00 (МТС), 985-68-59 (ВЕЛКОМ), 8-01645-33-7-29 (ДОМ.)

8(029) 181-60-21
8(029) 557-87-08
Рассрочка!
Реставрация и ремонт мягкой мебели
Качественно и быстро!
10% СКИДКА пенсионерам, инвалидам, многодетным семьям
Услуги грузчика и доставка бесплатно
Широкий выбор тканей
Изменение дизайна
Переделаем Вашу кровать в тахту, диван — в угловой, в еврокнижку.
ИП Заяц Д.В. УНП 690754410

ЦЕМЕНТ М500 D20 (25 Т)
ГИПСОКАРТОН И КОМПЛЕКТУЮЩИЕ
ИЗВЕСТЬ, СМЕСИ СТРОИТЕЛЬНЫЕ, ШПАТЛЕВКА
ШИФЕР, ТРУБЫ А/Ц, МИНВАТА, ПЕНОПЛАСТ
ЗАБОР ПР-ВА НОВОГРУДКА
СЕТКА РАБИЦА, ГВОЗДИ СТРОИТЕЛЬНЫЕ
БЛОКИ ГАЗОСИЛИКАТНЫЕ,
КЛЕЙ ДЛЯ ПЛИТКИ, БЛОКОВ
ЛИСТ ОЦИНКОВАННЫЙ
МЕТАЛЛОПРОКАТ (ЛИСТ, ТРУБЫ, УГОЛОК, ШВЕЛЛЕР)
ДОСТАВКА ПО ГОРОДУ БЕСПЛАТНО,
возможна доставка по Слонимскому, Зельвенскому, Дятловскому и Новогрудскому районам
Тел.: 8-029-655-02-26, (вел.)
8-029-881-20-68 (мтс)
6-34-52 (после 18.00)
ЧТПУР «Левадагрупп», УНП 590325071

ПИЛОМАТЕРИАЛЫ
САЙДИНГ
МИР КРОВЕЛЬНЫХ МАТЕРИАЛОВ
ОКНА ДВЕРИ ПВХ
УТЕПЛИТЕЛЬ
ИП Мазурик Г.П. УНП 590942331
мтс +375 (29) 5833050 Вел. +375 (44) 7388210
г. Слоним, ул. Чкалова, офис 32
Работаем с 9 до 18 ч. Выходной: вс, пн
e-mail: Slonim_Shalom@outlook.com
САЛОН-МАГАЗИН
«ШАЛОМ»
Мазурик Григорий
Индивидуальный Предприниматель
/ Кредит Рассрочка /
ОКАЗЫВАЕМ УСЛУГИ ПО СТРОИТЕЛЬСТВУ

Подать частное объявление на сайт стало проще
133



ДОРОГО ПРИНИМАЕМ Б/У АККУМУЛЯТОРЫ
10.02 в г. Слониме
Коссовский тракт
стоянка Коссовского рынка
с 10.00 до 11.30
Возможен вывоз АКБ нашим транспортом
(033) 655-49-84
(029) 787-93-20
www.1ak.by
1AK.BY
"Первая аккумуляторная компания"

## АФИША

**Театр**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 ФЕВРАЛЯ**

Для детей: «Золотой цыплёнок», начало в 12.00

Для взрослых: «Стихийное бедствие», начало в 17.00

**Центр культуры и отдыха**

**Кинозал**

**СРЕДА, 7 ФЕВРАЛЯ**

«Бегущий в лабиринте: Лекарство от смерти» 3D (США, 16+, боевик, 2 ч. 22 мин.)

**ЧЕТВЕРГ, 8 ФЕВРАЛЯ**

«Плюшевый монстр» 3D (Бразилия, 2017, 6+, мультфильм, 1 ч. 34 мин.), начало в 12.00, 14.00

«Женщины против мужчин: Крымские каникулы» 2D (16+, комедия, 1 ч. 20 мин.) начало в 16.00, 17.30

«Пятьдесят оттенков свободы» 2D (США, 2018, 18+, мелодрама, 1 ч. 41 мин.), начало в 19.00, 21.00

**ПЯТНИЦА, 9 ФЕВРАЛЯ**

«Плюшевый монстр» 3D, начало в 12.00, 14.00

«Женщины против мужчин: Крымские каникулы» 2D, начало в 16.00, 17.30

«Пятьдесят оттенков свободы» 2D, начало в 19.00, 21.00

**СУББОТА, 10 ФЕВРАЛЯ**

«Плюшевый монстр» 3D, начало в 12.00, 14.00

«Женщины против мужчин: Крымские каникулы» 2D, начало в 16.00, 17.30

«Пятьдесят оттенков свободы» 2D, начало в 19.00, 21.00

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 11 ФЕВРАЛЯ**

«Плюшевый монстр» 3D, начало в 12.00, 14.00

«Женщины против мужчин: Крымские каникулы» 2D, начало в 16.00, 17.30

«Пятьдесят оттенков свободы» 2D, начало в 19.00, 21.00

**Концертный зал**

**СУББОТА, 17 ФЕВРАЛЯ**

Шоу-программа «Эскиз в цвете» народного театра моды «Этуаль», начало в 18.00

**СУББОТА, 17 МАРТА**

Концерт Игоря Николаева, начало в 18.00

**Городской парк**

**СУББОТА, 10 ФЕВРАЛЯ**

Мероприятие выходного дня «Молодёжь выбирает!»: спортивные состязания, солдатская каша, начало в 12.00

# Продолжение «50 оттенков серого» на слонимском киноэкране

**С 8 февраля в Слонимском центре культуры и отдыха покажут фильм «Пятьдесят оттенков свободы».**



Отметим, что данный фильм попадает под категорию 18+ё и является вторым продолжением нашумевших «Пятидесяти оттенков серого». Стало быть, драма, интриги и секс на киноэкране зрителю обеспечены.

**Никита ПАСТУХОВ**

Паважаныя нашы падпісчыкі

**Валерый Яўгенавіч ЗАШЧУК,**
**Надзея Міхайлаўна ЦІХАНЧУК,**
**Уладзімір Анатольевіч ВАШУТА і**
**Ніна Рыгораўна КОНАНАВА!**

Сардэчна віншуем вас з днём нараджэння!

Хай вас сагрэе дзень зімовы
Увагай родных і сяброў,
Хто скажа простыя вам
словы
Пра шчасце, веру і любоў.
Мы пажадаем вам таксама
Здароўя на жыццёвы плён,
Каб берагла вас ваша
карма
На свеце многа год і дзён!



*Рэдакцыя «Газеты Слонімскай»*

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Бярозавы сок

Ліпеньскі дзень проста знемагаў ад гарачыні. Паветра над асфальтам трымцела, нібы хто яго лёгенька трос. Мажны сівавалосы паляк Марэк Бужынскі ўжо і не рад быў, што выбраўся ў дарогу, бо ад Варшавы да Мінска шлях няблізкі. Але нічога не зробіш: бізнес ёсць бізнес.

Вельмі хацелася піць, вада, што браў з сабой у тэрмасе, даўно закончылася, і ён звярнуў з трасы ў блізкую вёску, каб набраць яе і спаласнуцца ля якoга-небудзь калодзежа.

Праехаў па вуліцы — нідзе нікога. Вёска, відаць, вымерла, а хто і застаўся, то пахаваліся ад спёкі ў хаты. Толькі на адным надворку ў цені старой ліпы бабулька секла дровы. Гэта была Ванда Зубрыцкая. Маленькая, худзенькая, у лёгкай паркалёвай сукенцы, на галаве завязана назад блакітная хусцінка. Ля плоту быў калодзеж з цыбатым жураўлём. Марэк спыніўся, выйшаў з машыны на лёгкі ветрык, які таксама дзьмуў нібыта з печы.

— Добры дзень, бабця! — павітаўся. — Як жа вы на такой гарачыні працуеце? Хіба не будзе іншага дня?

— От, сынок, у маім узросце ўжо і не горача, і не холадна, пад дзевяноста гадоў падбіраецца. Учора братаў сын спілаваў і папілаваў на калодачкі старую сліву, то трэба пасекчы, няхай сохнуць дроўцы, зімой як знайду.

— А хіба каго маладзейшага няма для гэтай работы?

— Ды і няма. Зяць у турме сядзіць за крадзеж, дачка знайшла сабе другога і пераехала жыць у Расію. Адзіная ўнучка недзе ў вашай краіне на заробках. І працуе, і вучыцца. Вы ж паляк, па гаворцы пазнала. Словы польскія часта ўстаўляеце ў нашу гутарку, пазнаць можна...

— Так, я паляк, еду ў Мінск па справах бізнесу. Папрашу ў вас вады ў тэрмас, а таксама хачу напіцца і спаласнуцца ля калодзежа.

— Калі ласка, спаласніцеся, а ў тэрмас я налью вам бярозавага соку. І тут пап᾽яце, — гасцінная бабулька ўбіла ў калодку сякеру і жвава пайшла ў хату.

Пакуль Марэк выцягнуў вядро вады і з асалодай плёхаўся, яна злазіла ў склеп і набрала бярозавага соку. Чакала госця на маленькай чыстай кухні. Калі ён, бадзёры ад халоднай вады, зайшоў у памяшканне, прапанавала:

— Можа, пан есці хоча, то я зараз пачастую?



МАЛЮНАК ЯЎГЕНА ІВАНОВА

— Не, вялікі дзякуй, мне толькі напіцца..

— Піце на здароўе, такога смачнага бярозавіку, пэўна, у Польшчы няма, — падала паўлітровы кубак.

Пан Марэк піў з асалодай.

— І сапраўды, ніколі такога напат не каштаваў. Калі не шкада, наліце і ў тэрмас. А як вы прыгатавалі такі цудоўны бярозавік? Гэта ж не проста сок?

— Вясной назбірала яго ў ліпавую бочачку, якая стаіць у склепе, завязала тую бочачку марляй, а наверх насыпала ячменю. Вось да лета ячмень прарос карэньчыкамі ў сок. Цяпер дабавіла ў кубак крышку штучнага мёду, размяшала — і напітак гатовы, — апавядала бабулька.

— Царскі напітак! — з захапленнем сказаў Марэк. — Шкада, што я жыву ў горадзе і не маю ні бочачкі, ні склепа, а то і сам прыгатаваў бы.

— То заязджайце да мяне, заўсёды пачастую і з сабой налью, ведаеце ж, дзе жыву.

Дзверы з кухні ў большы пакой былі адчынены, і пан Марэк убачыў на сцяне партрэт прыгожай русавалосай дзяўчыны.

— Не можа быць! — прамовіў. — Гэта проста неверагодна!

— Што такое? — не зразумела бабулька.

— Чый гэта партрэт? — ён падышоў бліжэй.

— Унучкі маёй, я ж кажу, у Польшчы працуе і вучыцца.

— І завуць яе Чэся?

— Так, Чэся. А вы адкуль ведаеце?! — бабулька была здзіўлена не менш за пана.

— Пазнаёміліся нядаўна... Я згубіў барсетку, сумачку такую мужчынскую, у якой былі і грошы, і дакументы. На вуліцы ў Варшаве вытрас, як садзіўся ў машыну. У адчаі пайшоў у паліцыю пісаць заяву аб прапажы. І не паспеў напісаць, як туды прыходзіць маладая прыгожая пані і падае паліцэйскаму маю барсетку. Разумееце, яна знайшла і прынесла! І гэта была ваша ўнучка...

— О, яна прыстойная дзяўчына, чужога ніколі не возьме. Я ўсё баялася, каб не была такая зладзеяватая, як бацька, бо дзеці ж іншы раз ідуць па бацькоўскай дарозе, але з яе атрымаўся слаўны чалавек. Каб вы толькі ведалі, як мне прыемна слухаць вашы словы!

— Я спрабаваў аддзячыць Чэсі за яе ўчынак, то не ўзяла грошай. А дзе працуе ваша ўнучка?

— На гаспадарцы ў нейкага пана пад Варшавай. І вучыцца ў вашай сталіцы.

— А ў вас ёсць нумар яе тэлефона?

— Вунь на століку ляжыць, я яго далёка не хаваю.

Пан Марэк узяў лісток і перапісаў нумар сабе.

— Пазваню, прапаную ёй добрую работу ў сваёй фірме. І плаціць буду нямала. А вы таксама пазваніце і раскажыце пра нашу размову.

— Дзякуй, панок, а то ёй там нялёгка, на той гаспадарцы...

Праз некалькі мінут пан Марэк сеў у машыну і паехаў далей, а ўслед глядзела і хрысціла яго гасцінная бабулька Ванда. Благаслаўляла ў дарогу...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Главный редактор Виктор Владимирович Володащук

Учредитель
**Виктор Владимирович ВОЛОДАЩУК**

ГАЗЕТА ВЫХОДИТ НА РУССКОМ И БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКАХ

**Телефоны редакции:**
МТС: 8-029-584-87-32
Velcom: 8-029-133-04-21
**факс:** 8 (01562) 2-90-00
звонить с 9.00 до **18.00**
**Skype — gazslon**

Для корреспонденции: 231799, г. Слоним, ул. Красноармейская, д.41
Юридический адрес: г. Слоним, ул. Красноармейская, 41

Регистрационное удостоверение №65 от 05.03.2009 года выдано Министерством информации Республики Беларусь. Свидетельство о госрегистрации УП "Газета Слонимская" ЮКЛ № 001845, выданное Гродненским областным исполнительным комитетом от 03.04.2003 г.

Авторы опубликованных материалов отвечают лично за подбор и достоверность фактов, их точка зрения может не совпадать с мнением редакции. Редакция не ведет переписки с читателями и оставляет за собой право не рецензировать и не возвращать рукописи. Редакция не несёт ответственности за содержание рекламы.

**Свободная цена**

Тираж номера 3010 экз.

Время подписания к печати по графику
6 февраля 2018 года 15:00

РЕКЛАМНАЯ СЛУЖБА
8-(044) 715-90-03
8-(044) 762-48-39
ул. Красноармейская, 73Б (здание АРЗ)
**e-mail:** gs@gs.by, gazslon@gmail.com

Объем — два условных печатных листа.
Газета отпечатана в ГОУПП "Гродненская типография", Гродно, ул. Полиграфистов, 4. индекс 230025
Заказ № 808

Распространяется с газетой "Газета Слонимская" по подписке и в розницу по Республике Беларусь

ISSN 1991-3362